**Год VII. Студзень № 1 (74).**

# Шлях Моладзі

…„Падымайся з нізін, сакаліна сям'я
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі."

ЯНКА КУПАЛА.



ВІЛЬНЯ, 1935 г.

Беларуская Друкарня ім. Францішка Скарыны —Вільня, Завальная вул. № 1

**Грамадзяне! Просім пасьпяшыцца з прысыланьнем падпіскі на „Шлях Моладзі“ на 1935 год і з аплатай старога доўгу, бо ўжо пачынаем чыстку і некаторым асобам, якія не аплацяць хоць часткова падпіскі, у м-цы лютым, а ўсім іншым у сакавіку і красавіку высылка часопісі будзе ўстрымана. Хто колькі можа — хоць некалькі грашоў — няхай зараз-жа прысылае выдавецтву „Шляху Моладзі“ далучыным да гэтага нумару „przekazem razrachunkowym“.**

## BIEŁARUSKAJA ABECEDA.

### Беларуская абэцэда.

| | | |
|---|---|---|
| A, a — А, а. | J, j — Й, й. | R, r — Р, р. |
| B, b — Б, б. | Ja, ja — Я, я. | S, s — С, с |
| C, c — Ц, ц. | Je, je — Е, е. | Ś, ś — СЬ, сь. |
| Ć, ć — ЦЬ, ць. | Ju, ju — Ю, ю | Š, š — Ш, ш. |
| Č, č — Ч, ч. | K, k — К, к. | T, t — Т, т. |
| D, d, — Д, д. | L, l — ЛЬ, ль. | U, u — У у. |
| E, e — Э, э. | Ł ł, — Л, л. | Ŭ, ŭ — Ў, ў. |
| F, f — Ф, ф. | M, m — М, м. | V, v — В, в. |
| G, g — Г, г. | N, n — Н, н. | Y, y — Ы, ы. |
| H, h — Г, г. | Ń, ń — НЬ, нь. | Z, z — З, з. |
| Ch, ch — Х, х. | O, o — О, о. | Ž, ž — Ж, ж. |
| I, i — I, i. | P, p — П, п. | Ź ź — ЗЬ, зь. |

„Шлях Моладзі“
МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на 3 месяцы 50 гр., на паўгода—1 зл. на год—2 зл.

Заграніцу — ўдвая даражэй.

Цана абвестак паводле ўмовы.

**Адрас Рэдакцыі:** Вільня (Wilno), Завальная № 1—3

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| Год VII. | Вільня, Студзень 1935 г. | № 1 (74). |
|---|---|---|

## З НОВЫМ ГОДАМ.

З Новым Годам! З новым шчасьцем,
З лепшай доляю, жыцьцём,
Я вітаю цэлым сэрцам,
Беларусаў—Крывічоў!

З Новым Годам! З днём — зарою,
Сьветлай зорачкі — агнём,
Я вітаю ўсей душою,
Беларусаў—Крывічоў!

З Новым Годам! Каб над намі
Зорка Волі узышла
І над нашым родным Краем
Зьяла міла без канца!

МАЛАДЫ ДУБОК.

* * *

Збудзіся, Крывіч, з паднявольнага сну,
Страсі з сябе ночы дрымоту,
У выш узьляці на магутных крыльлёх,
На сьвет глянь з арлінага лёту.

Збудзіся, Крывіч, бо ўжо сонца ўстае
І гіне ўладаньне цьмы-ночы:
Чакае Старонка так сіл маладых
Да працы ахвярнай, ахвочай...

А. БЯРОЗКА.

* * *

Можа гэта пэрлы,
Мо' крыштал нябёс,
Лёгкаю пушынкай
Ветрык нам прынёс?

Можа гэта краскі,
Мо' лябеджа бель
Высьцілае ўвокал
Мяккую пасьцель?

Можа гэта срэбра,
Мо' іскрынкі зор
Сыплюцца цудоўна
На палёў прастор?

Можа гэта зоркі,
Мо' мух белых рой
З вышыні таёмна
Сее хтось рукой?

. . . . . . . . . . .

Ўсё знаёма гэта...
Ўжо згадалі мы:
Роднае старонкі
Гэта скарб зімы!

А. МІЛЮЦЬ.

# На шляху да незалежнасьці Беларусі...

Мінуў ужо 1934 год і сьлед па ім астывае. Пакуль-жа памяць яшчэ сьвежая, кінем узад вокам і паглядзем, што гэты год нам прынёс.

Трэба сказаць, што вялікіх зьмен у агульна-беларускім жыцьці ў 1934 годзе ня было. Усё йдзе старым шляхам. Варожыя сілы, скрыта і яўна, далей капаюць пад нашай Бацькаўшчынай ямы, а верныя сыны Яе бязупынна імкнуцца да лепшага, самастойна-беларускага жыцьця.

Праца „Шляху Моладзі“ ў 1934 г. была даволі плодная. Асабліва гэта відаць узяўшы ў рукі гадавік „Шл. Мол.“ за 1934 г., у якім замест намечаных 12 нумароў з 152 бачынамі, знаходзім 13 нумароў з 232 бачынамі.

Наладзіла ў мінулым годзе выдавецтва „Шл. Мол.“ і дзьве публічныя імпрэзы: 25.II—юбілейны вечар „Шл. Мол.“ з канцэртам і дэклямацыямі і 31.XII — спатканьне Новага 1935 Году. Абедзьве гэтыя імпрэзы карысталіся сярод бел. грамадзянства вялікім зацікаўленьнем і падтрыманьнем.

Зьмест „Шл. Мол.“ за 1934 г., — як пішуць нам чытачы, — так-жа пабагацеў. Творы нашых супрацоўнікаў падымаюцца на вышэйшы ровень.

Лік падпішчыкаў усьцяж узрастае. Растуць аднак і расходы, бо вось Вілен. Гарадзкое Стараства сканфіскавала № 9 (69) „Шл. Мол.“ і ў гэтай справе мае быць суд.

Паміма ўсяго йдзём наперад. А гэта вельмі не падабаецца ворагам беларускага адраджэньня, якія хочуць абяззсіліць і абязславіць і „Шлях Моладзі“. Найбольш у гэтым кірунку выявіў энэргіі менскі камуністычны часапіс «Літаратура і Мастацтва», які, выдумваючы розныя нябыліцы, закідаў „Шляху Моладзі“ і яго супрацоўнікам фашызм.

Мы на гэтую хлусьню не адказвалі і не зварочвалі увагі, бо добра знаем спосабы змаганьня камуністаў, ды ведаем, што тыя людзі, якія хоць раз мелі ў руках „Шлях Моладзі“, напэўна пераканаліся, што мы ані фашысты, ані камуністы і што працуем для дабра беларускага народу, не вызначаючы яму рамак. Рамкі гэтыя найлепш вызначыць сабе народ сам, як толькі здабудзе волю.

Слушна аб усялякіх нягодных нападках піша беларускі паэт — наш супрацоўнік Міхась Машара:

> «Кідаюць часам мне у вочы,
> Адны — „фашыст“, другія — „хам“.
> Дык часта так бяссоннай ноччу
> На суд заву, сябе я сам.

— Чаму ня ласка — злосьць такая?
У чым тут грэх?... І дзе віна? —
Душа абурана пытае
Маё сумуючае я.

— Мо' ты кагось пакрыўдзіць хочаш?
Мо' ты забіў?... Або украў?
— Я праўду песьняй ім прарочыў
І як братоў усіх кахаў!

— Мо' ты прыблуда?... Рэнэгат ты?..
Мо' здраднік ты — не чалавек?
— Я сын вясковых шэрых хатаў
І ім астаўся быць на век!

— Мо' ты падкуплены панамі,
А то і проста сам буржуй?
— Іду з працоўнымі братамі
Пад кліч — змагайся і працуй!

— Завошта-ж «хама» і «фашыста»
У твар кідаюць табе тут?
— Затое, што душою чыстых
Збрудзіць імкнецца ўсякі бруд!»

Так, сапраўды, бруд усюды лезе, усё хоча збрудзіць, нават найчысьцейшыя, найвышэйшыя, найсьвятлейшыя ідэі і парывы! Мы аднак гэты бруд павінны зганяць хоць-бы прыбіраўся ён у няведама якое пер'е.

Ведаючы, што тады можна хутка і добра што-небудзь будаваць, калі ёсьць добры плян, падзел працы, добры матар'ял ды калі ўсе працаўнікі працуюць шчыра, мы імкнемся, каб „Шлях Моладзі" верна служыў свайму Народу і Бацькаўшчыне, ды каб быў дарадчыкам і разрыўкай для дарослае і дарастаючае беларускае моладзі. Згодна з гэтым імкненьнем, а так-жа з жаданьнем чытачоў, будзем далей працаваць над узбагачэньнем зьместу „Шляху Моладзі", робячы ў яго дасюлешнім зьмесьце некаторыя зьмены. Перастаём ужо вясьці аддзел „Для Нашых Малодшых", які— думаем заменяць „Пралескі" і ўводзім — між іншым — „Куток разрывак".

Маем надзею, што беларуская моладзь будзе і далей падтрымліваць „Шлях Моладзі", акуратна прысылаючы падпіску, ад якой залежыць павялічэньне самога часапісу, пішучы—хто вершы, хто апавяданьні, артыкулы, карэспандэнцыі, жарты, круцігалоўкі, хто йзноў пашыраючы сам часапіс.

Супольнымі-ж сіламі дойдзем да сьветлай мэты!

Я. Н.

Ад. Станкевіч.

# Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня.

10)

### VII. „Mużyckaja Prauda“ і „Гомон“.[1])

З таго, што вышэй сказана аб „Mużyckaj Praudzie“ і аб „Гомоне“, можна ўжо аб іх мець даволі поўнае паняцьце. І дзеля гэтага шмат паўтарацца тут ня будзем, хіба толькі ў меру канечнасьці, а пераважна на падставе ведамых нам аб гэных часапісах вестак пастараемся зрабіць сынтэтычнае між імі параўнаньне.

Галоўная палітычна-грамадзкая мэта „Muž. Pr.“, да якой яна заклікае беларускіх сялян, гэта: пазбыцца расейскага цара, пазбыцца паноў і паншчыны, здабыць для сялян зямлю на ўласнасьць, не плаціць вялікіх і крыўдных падаткаў, служыць у краёвым войску і ваяваць толькі за волю свайго краю, калі хто на яго нападзе, мець вольнасьць трымацца тэй веры, якой трымаліся прэдкі народу і быць вольнымі людзьмі, як гэта было ўжо ў многіх, а ў многіх заводзілася, дэмократычных дзяржавах Эўропы.

„Muž. Pr.“ заклікае беларускіх сялян да паўстаньня разам з палякамі процiў расейскага цара і проціў польскіх паноў. Палітычным сваім зьместам яна такім чынам адгараджваецца ад Расеі, як такой, з Польшчай-жа ня зрывае, а зрывае толькі з панскай, пануючай клясай.

Мэта беларускага ўчасьця ў польскім паўстаньні — здабыць вольнае і шчасьлівае жыцьцё, вольнае ад паншчыны і вольнае ад палітычнага польска-дзяржаўнага цэнтралізму.

У часапісе гэтым, праўда, не спатыкаем ані разу слоў: Беларусь, беларускі народ. Гаворыцца там толькі аб „нашым народзе“ агулам, гаворыцца аб „мужыкох“, аб „мужыцкай долі“, аб „мужыцкім народзе“, аб „нашым краі“. Але край гэты і народ ягоны хоць дужа агульна, дужа асьцярожна, разважаецца як нешта асобнае і рознае ад Польшчы і палякоў. Заклікае гэты часапіс беларускіх сялян да паўстаньня разам з Польшчай, але з тэй, якая ідзе за „мужыкоў“ і якая гварантуе вольнасьць беларускаму народу і краю.

Словам, „Muž. Pr.“ гэта тыповы беларускі пачаткава-народніцкі часапіс[2]). Праўда, у ім яшчэ пануюць традыцыі Вял. Кн. Літоўскага, але праз гэныя традыцыі, асабліва на тле часу яго выхаду ў сьвет, відацца ўжо зародкі новых беларускіх вызвольна-нацыянальных ідэяў. „Muž. Pr.“ гэта

1) Разьдзел гэты ўзяты з майго артыкулу ў „Калосьсі“: 1935, кн. 1, бач. 34 і наст. (Ад. Ст.).

2) Народніцтва разьвівалася на працягу 80-х гадоў: ад 1860 да 1890. (Савецк. Энцыкл.).

прадвесьніца і пачынальніца палітычна-социяльнага вызваленьня беларускага народу, як складовай часткі ўсебаковага нацыянальнага адраджэньня ягонага, гэта ранішняя зорка на беларускім небасхіле, якая азнаймляе беларускаму народу ўсход сонца і будзіць гэты народ да долі і волі.

* * *

Думка беларускага палітычна-социяльнага вызваленьня, засеяная „Muž. Praudaj“, марна не прапала, а жыла і разьвівалася далей. На дваццаць другім годзе пасьля выхаду яе ў сьвет, паявіўся новы беларускі палітычны часапіс „Гомон“. Часапіс гэты сапраўды ёсьць прадаўжэньнем „Muž. Pr.“ і яе дапаўненьнем.

Ідэовы зьмест „Гомону“, вылажаны цалком выразна, як мы ўжо бачылі, у артыкуле першым і апошнім — гэта барацьба за палітычную і эканамічную самастойнасьць Беларусі ў агульна-расейскай фэдэрацыі.

Першы артыкул, абгаварыўшы тактыку барацьбы беларускіх народавольцаў і іх адносіны да расейскай „Народнай Волі“ і труднасьці, якія яны ў сваіх пачынаньнях напатыкаюць, канчаецца гэтак: „Но как-бы не велики были эти трудности, мы, поскольку это будет в наших силах, положим первый камень для фундамента федеративной самостоятельности Бѣлоруссіи“...

Беларускія народавольцы, як гэта відаць з „Гомону“, з боку многіх расейцаў напатыкалі нямала перашкод і сумніваў у вартасьць іх працы. Ужо тады яны нашых барацьбітоў за Беларусь страшылі нацыяналізмам і сэпаратызмам. Вось-жа артыкул аб нацыянальнай праблеме адбівае закіды, абасноўвае паняцьце нацыі агулам і беларускай у асобнасьці, а так-жа пасвойму бароніць правоў беларускага народу на палітычную і эканамічную самастойнасьць у агульна-расейскай фэдэрацыі. Вось хоць некаторыя даслоўныя выбаркі з апошняга — шырэйшы зьмест якога паданы вышэй — артыкулу ў „Гомоне“, які яскрава пацьвярджае вышэй сказанае.

„Считаем необходимым энергично защищать Бѣлоруссію, как от польскаго, так и от великороссійскаго насилія.. Всѣ особенности Бѣлоруссіи дают право на автономную федеративную самостоятельность в семьѣ других народностей Россіи в будущем“...

Уנаваўзгадаванай беларускай інтэлігенцыі „не будет того безсознательнаго узкаго націонализма, который называется обыкновенно „духом“, — у нея не будет — бѣлорусскаго духа, — но за то она будет проникнута сознательным народничеством“...

Беларуская інтэлігенцыя павінна зьвярнуць сваю ўвагу не на „развитіе бѣлорусскаго языка и на развитіе бѣлорусской народной гордости и сепаратизма“, але яна павінна

выставіць „на первый план экономическое улучшеніе и политическое развитіе страны... При такой постановкѣ бѣлорусскаго вопроса, Бѣлоруссов нельзя было-бы назвать сепаратистами... Нынѣшній историческій момент является найболѣе удобным для пробужденія Бѣлоруссіи, которая при дружной работѣ и борьбѣ нашей интеллигенціи переродится для новой самостоятельной жизни и займет почесное мѣсто среди других федерацій Россіи на началах свободнаго соглашенія с ними“...

* * *

Маем мы ўжо, такім чынам, агульнае паняцьце аб „Mužyckaj Praudzie“ і аб „Гомоне“. Для поўнасьці нашых нарысаў дакінем слоў колькі аканчальнага параўнаньня між імі.

Цэнтрам і апорай імкненьняў „Muž. Pr.“ была Польшча. Каля яе, як каля свайго ядра, мела тварыцца фэдэрацыя, — аб якой там яшчэ выразна не ўспамінаецца, — народаў быўшага Вял. Кн. Літоўскага. У „Гомоне“ ўжо яўна спатыкаем ідэю фэдэрацыі, але ўжо з Расеяй, чаго вымагалі тагачасныя гістарычна-палітычныя варункі Беларусі.

„Muž. Pr.“ пісалі і выдавалі беларусы каталікі польскай культуры, а сярод беларускіх народавольцаў-гоманцаў ужо паяўлялася беларуская інтэлігенцыя праваслаўная. Першыя йшчэ аглядаліся на Польшч і на традыцыі Вял. Кн. Літ., а другія лучылі лёс Беларусі з Расеяй і ўжо аб традыцыях Вял. Кн. Літ., калі ня лічыць Грынявіцкага, бадай ня помнілі нічога. Гэтыя інтэлігенты ўжо не называлі сябе літоўцамі, як гэта рабіў Каліноўскі і нават яшчэ Грынявіцкі, але выразна беларусамі. Яны ўжо перасталі жыць традыцыямі Вял. Кн. Літоўскага.

Можна сьмела сказаць, што на беларускіх народавольцах, што групаваліся каля „Гомону“, ці мо' яшчэ лепш: на самым „Гомоне“ — традыцыі польскія, шляхоцкія, літоўскія адмерлі цалком. Такім чынам „Гомон“ — гэта сапраўды далейшы і зваротны пункт у беларускай палітычна-вызвольнай думцы. „Гомон“, як мы ўжо бачылі, усе беларускія землі заве беларускімі, а ўвесь народ наш беларускім і снуе выразныя думкі аб яго палітычнай, социяльнай і экономічнай самастойнасьці, чаго так выразна і ў такой меры, у „Muž. Pr.“ яшчэ не спатыкаем.

Заходзіць так-жа розьніцца між „Гомонам“ і „Muž. Pr.“ і што да ідэолёгічных асноваў іх. „Muž. Pr.“ — гэта часапіс, які-бы можна было сяньня назваць беларускім радыкальным і сялянскім, або народным радыкальна-дэмократычным, а „Гомон“ — гэта ўжо часапіс з ідэолёгіяй — хоць яшчэ не марксаўскай, — але па свойму социялістычнай, які ў аснову будучай Беларусі кладзе, як выразна аб гэтым сам кажа, „научный социализм“.

Калі-ж урэшце ідзе аб беларускі нацыянальны элемэнт,

як такі, дык яго ў „Muž. Pr.“ можна бачыць толькі ў тым, што яна была пісана пабеларуску і што бараніла палітычныя і экономічныя правы беларускага народу.

У „Гомоне“-ж шмат больш беларускага нацыянальнага „духу“, хоць ад гэтага ён энэргічна адкараскваецца. У „Гомоне“ беларускі народ — гэта народ самастойны, розны ад іншых славянскіх народаў, а так-жа мова яго, псыхіка, абычаі, — усё рознае, асаблівае, беларускае. Ужо гэткі пагляд на беларускі народ сапраўды мае ў сабе нямала беларускага нацыянальнага элемэнту. Праўда, „Гомон“ ці з пракананьня, ці мо‘ з тактычных паглядаў, каб не дражніць расейскіх патрыотаў-імпэрыялістых, якія здараліся сярод народавольцаў, заяўляе, што Беларусь да сэпаратызму ня імкнецца, што справу разьвіцьця беларускай мовы і культуры трэба пакінуць „любителям“, бо галоўнай мэтай бел. народавольцаў павінна быць фэдэрацыйная самастойнасьць Беларусі і эканамічны яе дабрабыт, — то ўсёждыкі гэта ўсё не зьмяншае ў ім — наадварот павялічвае — вялікую дозу беларускага нацыянальнага элемэнту. Сам факт разважаньня нацыянальнай беларускай праблемы і адгароджваньне ад беларускага нацыяналізму гаворыць аб яго існаваньні, аб патрэбе з ім лічыцца і аб патрэбе заняць да яго адпаведнае становішча.

* * *

Дык пытаем урэшце, што важнейшае для беларускага народу: „Mužyckaja Prauda“, ці „Гомон“? Здаецца, не памылімся, калі скажам, што абодва гэтыя часапісы важныя кожны ў сваім часе, у сваіх варунках і ў сваім значэньні. „Muž. Pr.“ — гэта першае зярнё, першы пачатак беларускай палітычна-вызвольнай думкі, а „Гомон“ — гэта тэй-жа думкі прадаўжэньне. Тое, аб чым „Muž. Pr.“ пісала дужа агульна, імглістa, „Гомон“ называў па іменьні.

„Muž. Pr.“ да беларускага нацыянальнага прынцыпу як такога, да паняцьця бел. народу, як нацыі, яшчэ дужа далёка. Сусім да яго блізкі „Гомон“, на які прынцып гэны ўжо насядае, хваляй сваей яго залівае, але й „Гомон“ ад яго поўнага зразуменьня, ад яго прыняцьця ў сваю палітычную ідэолёгію, яшчэ ўхіляецца і адмаўляецца.

Але нядоўга ўжо прынцып беларускай нацыі дабіваўся ў дзьверы беларускага вызваленьня, каб даць яму новыя творчыя сілы і сьціраваць беларускі народ на шлях усебаковага нацыянальнага адраджэньня і социяльна-палітычнага вызваленьня. Калі расейскія народавольцы, а ў іх ліку і беларускія, гінулі на царскіх шыбеніцах, тады разьлягаўся новы творчы кліч да беларускага народу слаўнага Фр. Багушэвіча: „Не пакідайце мовы нашай, беларускай, каб ня ўмёрлі“.

Кліч-ж гэны якраз і выражае той нацыянальны прынцып, які лёг у аснову сучаснага адраджэньня і вызваленьня беларускага народу.

# Chaj nam žyvie...

Z enerhijaj, davoli žyva. Melod. Uł. K.




Chaj nam žyvie Biełaruś darahaja
Śmieła da voli idzie.
Mety svajej chaj chutčej dasiahaje,
Lud svoj da ščaścia viadzie.

My za Ciabie, naša rodna Kraina,
Sercam, dušoj staimo,
A jak nadojdzie patrebna chvilina—
Śmieła žyćcio addamo.

My dzieci pracy. Nia strašny nam
[chmary.
Ŭsim my damo chto što vart.
Žyćcio patrapim złažyć na aŭtary,
Bo ŭ sercy ŭ nas — voli hart.

Dyk braćcia, śmieła idziom my napierad
Kujma advažna svoj los!
Doŭhaj niavoli parviom stary nierat,
Što mocham kryŭdy paros.

Bury stahodździaŭ nas zahartavali—
Biedy dla nas moc dali.
Nas nie zaljuć ŭžo varožyja chvali—
My staimo pry ruli.

Dyk chaj žyvie Biełaruś darahaja,
Śmieła da voli idzie.
Mety śvajej chaj chutčej dasiahaje,
Lud svoj da ščaścia viadzie.

*Uł. Kazłoŭščyk.*

---

## B A B A I Z A J A C.

(*Z Ejsmonta*).

Padumała baba z tryvohaj:
— „Pierabieh mnie zajac darohu,
Biada nia minieć“.
Dalej sumna idzieć...

— „Niaščaście spatkaje hdzieta:
Darohu prajšła mnie kabieta“.—
Zajac padumaŭ i z tryvohi
Padniaŭ vyšej nohi...

*J. Bylina.*

# Dadatnija i adjomnyja źjaviščy sučasnaha biełaruskaha kulturnaha žyćcia.

Pračytaŭšy hety zahałavak, nie adzin peŭna z našych čytačoŭ padumaje, što redakcyja časapisu biełaruskaje moładzi biarecca nie za svaje spravy. Dziela hetaha zhary papieradžajem, što nia źbirajemsia my tut sudzić biełaruskich kulturnych arhanizacyjaŭ i biełaruskich kulturnych pracaŭnikoŭ, bo nie ŭvažajem siabie da hetaha paklikanymi; chočam adno vykazać pahlad maładoha biełarusa na sučasnaje biełaruskaje kulturnaje žyćcio.

Treba skazać, što apošnim časam dziejnaść bieł. kulturnapraśvietnych, navukovych i hramadzkich arhanizacyjaŭ u Vilni vielmi ažyviłasia. U dokaz skazanaha pieraličym tut usie bieł. kulturnyja imprezy, jakija adbylisia ŭ 1934 h., ad 16.XI da 16.XII, h. zn. za adzin tolki miesiac.

16.XI u Bieł. Instytucie Hasp. i Kultury hram. M. Klim pračytaŭ apošniuju svaju lekcyju z cyklu ab žyćci ŭ Savietach.

17.XI Bieł. Studencki Sajuz ładziŭ viečar pryśviačany 30-tym uhodkam hramadzkaje pracy Ciotki.

18.XI u T-vie Pryjacielaŭ Biełarusaviedy pry Vil. Universytecie adbyłasia lekcyja abs. M. Piaciukieviča na temu: „Marksyckija metody ŭ etnohrafičnych doślедach u SSRR".

23.XI u BIHiK adbyłasia lekcyja Ks. V. Hadleŭskaha na temu: „Jak paŭstaŭ biełaruski nacyjanalny ściah".

24.XI BSS ładziŭ zapaznaŭčuju siabroŭskuju harbatku.

25.XI T-va Pryjac. Biełarusaviedy ładziła kolektyŭnuju lekcyju siabroŭ filolohičnaj sekcyi ab movie vilenskaj bieł. presy.

Taho-ž 25.XI u Bieł. Himnazii vučni Pravasłaŭnaje Duchoŭnaje Seminaryi ładzili biełaruski viečar, u časie jakoha adyhrana była drama E. Areščychi „U zimovy viečar" i chor piajaŭ biełaruskija pieśni.

30.XI u BIHiK stud. Č. Budźka čytaŭ lekcyju ab biełaruskim adryŭnym kalendary na 1935 h.

1.XII u BSS adbyłasia lekcyja A. Smala „Ab imperjaliźmie".

4.XII u tym-ža BSS adbyŭsia viečar pryśviačany śv. p. studentu P. Piaršukieviču.

7.XII adbyŭsia čarhovy piatničny referat, hetym razam ab samaŭradzie.

Hetaha-ž 7.XII u BSS adbyŭsia viečar pryśviačany pamiaci A. Hurynoviča, ab jakim čytali referaty mhr. J. Šutovič i abs. M. Piaciukievič.

8.XII BIHiK ładziŭ žałobnuju akademiju ŭ čeść śv. p. praf. Br. Epimach-Šypiły.

14.XII na „piatničniku" čytaŭ referat hram. M. Kościevič ab „Sprobie arhanizacyi biełaruskaha vojska ŭ 1918 hodzie".

15.XII u Vil. Biełaruskaj Himnazii adbyŭsia kancert.

16.XII u T-vie Pryjac. Biełarusaviedy dr. J. Stankievič pračytaŭ lekcyju na temu: „Miesca paŭstańnia i aŭtory biełaruskaha letapisu".

Apróč hetaha kožnuju subotu na ŭniversytecie dr. J. Stankievič na biełaruskim lektaracie čytaŭ pa dźvie lekcyi z haliny biełarusaviedy.

Kali-ž dadać siudy jašče schody i pasiedžańni roznych arhanizacyjaŭ i red.-kalehijaŭ, dyk na pahlad atrymajem sapraŭdy aktyŭny miesiačny bilans biełaruskaha kulturnaha žyćcia ŭ Vilni.

Ciešycca adnak hetym nadta nia prychodzicca. Čamu? Tamu što ŭsio heta robicca tolki ŭ Vilni, pieravažna dla adnych i tych-ža ludziej i tady, *kali na vioscy, siarod sialanstva, nijakaje blizu biełaruskaje kulturnaje pracy biełaruski centr z Vilni nie pravodzić.* Faktyčna ŭsia biełaruskaja kulturnaja praca zlokalizavana ŭ Vilni, a biełaruskija kulturnyja pracaŭniki na vioscy, jak i ŭsio sialanstva, addadziena na łasku losu i možna skazać na zžorcie čužym arhanizacyjam. Biełaruskija kulturnyja pracaŭniki i arhanizacyi na vioscy redka z svajho centru čujuć žyvoje słova i aproč nia tak užo bahataj presy dy paru knižak ničoha nia majuć. Dyk i nia dziva, što na vioscy, pamima ŭzrostu nacyjanalnaje śviedamaści siarod narodu, kulturnaja biełaruskaja praca nie raźvivajecca tak, jak naležała-b. A hetaha-ž tolki i treba panom pałažeńnia. Bo tady, kali my tut „šumim" u Vilni, jany pracujuć na vioscy, padcinajučy nam kareńni.

Praŭda, nia možna mocna vinić bieł. centru ŭ biazdziejnaści, — jon robić toje, što moža... Mahčyma, što kali-b pałažeńnie krychu było lepšaje i kab biełaruskija arhanizacyi macniej stajali pad uzhladam materjalnym, dyk moža było-b bolšaje zacikaŭleńnie vioskaj, ale ŭ ciapierašnich varunkach trudna.

Dla spravy adnak adradžeńnia Biełarusi i niemahčymaje pavinna stacca mahčymym. I barjera, jakaja adharodžvaje nas ad vioski, pavinna być razvalena. Biełaruskuju kulturna-praśvietnuju dziejnaść treba pravodzić planova i pa ŭsioj Biełarusi, nie abminajučy vioski, dziela taho, što tudy ciažka dabracca. Niama materjalnych srodkaŭ na pajezdki, dyk treba ich stvaryć. Apadatkoŭvajemsia my na „Kałośsie", na niezamožnych studentaŭ, na „Praleski", na padtrymańnie biełaruskich kulturnych pracaŭnikoŭ, jakija znachodziacca ŭ ciažkim pałažeńni, dyk apadatkujmasia jašče na **fond kulturnaje pracy na vioscy**, ale ŭsie razam, nie paadzinočku.*) Niemahčymiem moža my adrazu zrabić vialikaje raboty, ale pamału, pastupova napeŭna asiahniem vielmi dobryja vyniki.

---

*) Kali-b chto chacieŭ apadatkavacca na vyšejuspomnienyja fondy, možam zaraz-ža painfarmavać jak i dzie heta zrabić, a navat možam pryniać na siabie zrabić u hetym kirunku ŭsie zachady, pieradajučy prysłanyja hrošy — red.

Arhanizavać hety fond treba pry tej arhanizacyi, jakoj charaktar najbolš padchodzić pracy na vioscy.

U Vilni faktyčna roznych, asabliva prapahacyjnych lekcyjaŭ mahło-b być krychu mienš, a treba było-b: źviarnuć bolš uvahi na pracu nad čyścinioj biełaruskaj movy, na arhanizavańnie litaraturnych viečaroŭ, jakija pryčynilisia-b da bližejšaj łučnaści bieł. poetaŭ-piśmieńnikaŭ z hramadzianstvam, lepš vykarystyvać lektorat dr. J. Stankieviča na ŭniversytecie i padtrymać hram. Fr. Alachnoviča ŭ pracy nad stvareńniem stałaha biełaruskaha teatru.

Rasplanavańnie kulturnaje pracy i padzieł siłaŭ —heta najvažniejšaja sprava našych dzion i joju pavinien zaniacca biełaruski centr u Vilni, pavinien pastaracca, kab u 1935 hodzie sapraŭdy ŭsio rabiłasia tak, jak treba, i tak, jak vymahaje sprava biełaruskaha adradžeńnia, a nie ...na adnym miescy.

---

Na hetym adnak jašče nie kaniec. Treba jašče ŭspomnić ab apošnich padziejach u biełaruskaj himnazii—filii polskaj dziaržaŭnaj himnazii im. J. Sławackaha ŭ Vilni.

Voś ža niadaŭna hetu škołu adviedaŭ polski ministr Aśviety. Jak pryniata, vitali jaho školnyja ŭłady i vučni. Ničoha, jasna, u hetym dziŭnoha. Dziŭna adno, što vučań, jaki vitaŭ ministra, havaryŭ papolsku, a nie pabiełarusku.

15.XII. adbyŭsia ŭ hetaj-ža škole, jak my ŭžo ŭspaminali, kancert. Dziela taho, što heta škoła ličycca biełaruskaj, dyk i kancert ładžany Baćkaŭskim Kamitetam, z vystupleńniami choru pad kiraŭnictvam hram. R. Šyrmy, kožny ŭvažaŭ za biełaruski i jak na taki jšoŭ. Akazałasia zusim inačaj, bo pałovu prahramy zaniali pieśni polskija ŭ vykanańni salistaŭ, ab polskich ułanach, krakaviakach i inš. Cikava było-b viedać, čym arhanizatary kancertu kiravalisia, układajučy takuju prahramu. Ci jany chacieli polskuju publiku pryciahnuć, ci biełarusaŭ polonizavać, abo na nervach im paihrać. Chutčej chiba heta druhoje, bo kali chto z polskaha hramadzianstva jdzie ŭ bieł. himnaziju na kancert, chočučy padtrymać biełaruskich vučniaŭ, dyk napeŭna budzie bolš cikavicca biełaruskimi pieśniami, jakija redka dzie čuje ŭ kulturnaj apracoŭcy, čymsia polskija, jakija jon i my vil. biełarusy čujem ŭsiudy: i ŭ kinie, i ŭ teatry, i ŭ radyjo i na roznych kancertach. Moža chiba arhanizatary kancertu chacieli pakazać vyžšaść biełaruskaj pieśni, jakaja ŭ vykanańni choru sapraŭdy čaravała dušu, a ad polskich pieśniaŭ u vykanańni polskich-ža salistaŭ niasło kazarmaj. Ale ci-ž my, biełarusy, majem tak adnosicca da polskich pieśniaŭ, jak vilenskaje polskaje radyjo da biełaruskich, jakoje kali i nadaje kancert biełaruskich pieśniaŭ, dyk tak ich skaleča, što strach słuchać.*) Nie, tak nia možna rabić — heta da ni-

*) Vyłučajem tut aŭdycyju, u časie jakoj vystupaŭ chor pad kiraŭnictwam hram. Šyrmy.

čoha dobraha nie daviadzie. Na takija-ž kancerty nia pojduć ani biełarusy, ani palaki.

Bačačy takija žjaviščy dzivicca nia prychodzicca, što adzin z polskich abservatarаŭ (nahladčykaŭ) vil. biełaruskaj himnazii piša ŭ № 340 „Kur. Wil." za 1934 h., što „biełarusy ŭ svajej spravie adradžeńnia nia majuć razmachu, peŭnaści siabie i pačućcia siły, jakuju vidać napr. u Ukraincaŭ". Nia dziŭnym tak-ža budzie i demonstracyjnae zakančeńnie ŭspomnienaha kancertu revalucyjnym biełaruskim hymnam „Ad vieku my spali", jaki adśpiavała prysutnaja na zali moładź.

*j. n.*

# Kulturnyja jubilei ŭ 1935 h.

Kultura, jakoju hardzicca sučasnaje čałaviectva — heta suma pracy i natuhaŭ jak ludzkich hramad, tak i ŭ bolšaj stupieni paasobnych ludziej. Heta jany, paasobnyja ludzi, svaimi mukami i achviarami stvaryli tyja kulturnyja dabradziejstvy, katorymi i my, biełarusy, karystajemsia ŭ svaim asabistym i hramadzkim žyćci.

Hetym ludziom naležyć spraviadlivaja ŭdziačnaść i pašana ad usich narodaŭ, naležyć jana i ad nas. Dyk choć uspomnim ichnyja imiony, źviazanyja z tym ci inšym faktam kulturnaha tvorstva, jubilei jakich prypadajuć u 1935 h., kab hetkim čynam addać naležnuju ad nas dań udziačnaści.

Jubilei hetyja nastupnyja:

10-tyja ŭhodki—1925 h.: Vynachad Duda'm kalarovaj televizii — pieradavańnia na adlehłaść kalarovych malunkaŭ.

20-tyja ŭhodki — 1915 h.: Adkryćcio Inada'am i Hoki'm bacylaŭ zaraznaj žaŭtački.

25-tyja ŭhodki - 1910 h.: Vynachad Ustyjanovičam praktyčnych matarovych saniaŭ. Śmierć niam. astranoma Halla.

30-tyja ŭhodki —1905 h.: Adkryćcio Šoden'am spirochetaŭ syfilisu.

40-vyja ŭhodki — 1895 h.: Adkryćcio Renthenam ikspramieńniaŭ; adkryćcio Ramzaj'em chem. elementaŭ heliju i arhonu; vynachad Goldšmidt'am u Essenie termitu — materyi dla atrymańnia vysokaj temperatury pry spaleńni metalaŭ; vynachad Lumje'm filmovaha kinematohrafu; vynachod Papovym anteny dla radyja. I-šy Mižnarodny Kanhres Kooperataraŭ. Zasnavańnie ŭ Londynie Mižnarodnaha Kooperatyŭnaha Sajuzu. Śmierć Engielsa — supracoŭnika K. Marksa i zakładčyka soc.-demakracyi; śmierć Heksli — anhl. bioloha, zasnavalnika etnolohii — navuki ab asablivaściach nacyjaŭ.

50 tyja ŭhodki — 1885 h.: Vynachad Šardonne'm štučnaha šoŭku; vynachad elektryčnaha prožektara; vynachad Demler'am benzynavaha samachodu; vynachad Nordenfeld'am padvodnaj łodki; vynachad Henison'am aŭtohrafičnaha telehrafu. Adkryć-

cio Paster'am suravicy (ščapionki) prociŭ šalenstva; adkryćcio Lefler'am bacylaŭ śvinnoj rožy. Śmierć: Hugo — francuskaha piśmieńnika-romanista; Roben'a, franc. fizyoloha, zasnavalnika histolohii — navuki ab budovie arhaničnych tkaniaŭ. I-šy mižnarodny vastrožny kanhres.

75-tyja ŭhodki — 1860 h.: vynachad Plante'm elektryčnaha akumulatara; vynachad Ponton d' Amenur'am helikopteru. Pabudavańnie Špirch'am I ha visiačaha čyhunkavaha mostu ŭ Eŭropie (cieraz Dunaj kala Vieny). Śmierć Šopenhaŭera, niamieckaha filozafa, zasn. filozofskaha pesymizmu, pavodle katoraha naš śviet jość samy najhoršy.

100-tyja ŭhodki — 1835 h.: Adkr. I šaj čyhunki na kontynencie Eŭropy (linija Brusel' — Mechelm u Belhii). Śmierć: Baadera — niam. teozofa; Humboldta A-ndra — zasnavalnika paraŭnaŭčaj filolohii — navuki ab movach. Adkryćcio Diužarden'am protoplazmy

125-tyja ŭhodki — 1810 h.: Vynachad Kenig'am cylindravaj drukarskaj mašyny. Adkryćcio Bercelius'am kremniju. Zasnavańnie Ludvigam Janam Instytutu „niamieckaj himnastyki". Śmierć Kavendyša — anhl. chemika.

150-tyja ŭhodki — 1785 h.: Udaskanaleńnie Kartrajt'am mechaničnaha tkackaha varštatu; udaskanaleńnie Mejkle'm mechaničnaj małatarni; vynachad Kulon'am krucilnych vahaŭ i adkryćcio im-ža elektrastatyčnych zakonaŭ.

175-tyja ŭhodki — 1760 h.: Vynachad cylindravaj pavietradźmučaj mašyny. Pabudavańnie Smiton'am I-šaha paravoha młyna. Adkryćcio de-I Eje'm I-šaj škoły dla hłuchaniemych. Aznačeńnie Blek'am skrytaj ciapłyni vady i vadzianoj pary.

200-tyja ŭhodki — 1735 h.: Vynachad mechaničnaj małatarni. Pabudavana I-šaja fabryka cyharaŭ. Ułožana Linnej'am naturalnaja systematyka raślinaŭ.

300-tyja ŭhodki — 1635 h.: Vynachad Šrejner'am pantohrafu. Śmierć Lo-pe de-Vehi — hišpanskaha paety i dramaturha.

400-tyja ŭhodki — 1535 h.: Adkryćcio Tartalija'm kubičnych raŭnańniaŭ u alhebry. Śmierć Tamaša Mura — anhl. humanistaha.

1200-tyja ŭhodki — 735 h. Śmierć Bedy — anhlo-saksonskaha historyka.

2500-tyja ŭhodki — kala 565 hodu da Naradžeńnia Chrysta. Vynachad Anaksymandram hnomanu — soniečnaha hadzińnika.

Čeść usim tvarcom kulturnaha dabrabytu čałaviectva!

*Uł. Paŭ—ski.*

## З У Б Р.

Зубр наш — рэдкі зьвер і дзікі,
Хоць падобны да быка,
Гнеды ў масьці, рост вялікі
І такая галава.

Зубр — дзябёлы, ня рухавы,
Горда носіць галаву,
Перад вельмі вялічавы,
Есьць галінкі і траву.



Рогі выгнуты ў паўмесяц,
Грыва зьвісла да кален,
Бараду даўгую носіць
На хрыбце — малы гарбень.

Зубра родная старонка —
Нетры — пушча Белавеж,
Дзе ў гушчар ня гляне сонка,
Дзе ніхто ня стрэне меж.

Беларус, шануй-жа цьвёрда
Пушчы, нетры і зуброў,
Каб твой край лічылі горда
Даражэйшым між краёў.

**А. Жук.**

---

## Х Т О  Я?

Я песьня нядолі,
Я голас пакуты —
Ня змоўкну ніколі:
На волі, ў няволі
Загнаны, закуты.
Я слова ратая,
Я водгалас працы —
Цямнее, сьвітае,
Спачынку ня маю —
Заву прабуджацца.

Я жальба бядоты,
Я весьнік сьвітаньня,
Пабудка ахвоты
З ліхою цямнотай
Ісьці на змаганьне.
Я думка свабоды,
Я праўды жаданьне
І волі народу,
Зарніцам усходу —
Іду на спатканьне.

**А. К.**

---

# Аднаўленьне Беларускага Тэатру.

Справа сарганізаваньне сталага Беларускага Тэатру ў Вільні, дзякуючы стараньню ведамага беларускага мастака, драматурга Фр. Аляхновіча, а так-жа супрацоўніцтву з ім Грам-к Грам-к М. Бэкішыхі, Я. Чантарыччанкі, Э. Залкіндзянкі, Ст. Жвірблянкі і Грам. Грам. А. Яцыны, У. Паўльскага, Лазарэвіча, Адуцкевіча, мастака Сяргіевіча і інш. зрушана ўжо з мёртвага пункту і ёсьць надзея, што ў недалёкай будучыні будзем мець свой тэатр. Доказам гэтага ёсьць беларускі спэктакль, які адбыўся 12.I.1935 г. ў залі Консэрваторыі, сарганізаваны вышэй-успомненымі асобамі, на каторы сабралася вельмі многа публікі.

У праграму спэктаклю гэтым разам ўваходзілі: драмат. абразок Э. Арэіччыхі — „У зімовы вечар“ і п'еса ў 3-х актах Фр. Аляхновіча — „Птушка Шчасьця“.

Ня будзем мы тут пісаць аб самой пастаноўцы спэктаклю і аб тых недахопах, якія шырока ўжо абгавораны і на адумысловай зборцы ў Грам. Аляхновіча і ў беларускай прэсе. Пацешым затое бел. грамадзянства новай весткай, што Грам. Аляхновіч ня думае агранічыцца самай Вільняй і ўжо 3 лютага сёлета праграму віленскага спэктаклю паўтарае ў Новай Вялейцы, а пасьля магчыма ў Троках, Ляндварове і іншых беларускіх местах. На 25-тыя ўгодкі першага беларускага прадстаўленьня ў Вільні, якія прыпадаюдь сёлета і дзеля арганізацыі сьвяткаваньня каторых сарганізаваўся камітэт, Грам. Аляхновіч падгатаўляе так жа ўжо прадстаўленьне.

Цяпер крыху вернемся йшчэ да самой п'есы „Птушка Шчасьця“. Вось жа трэба сказаць, што сама п'еса надаецца для бел. вясковай сцэны і можа карыстацца зацікаўленьнем. Пастаноўка, ці рэжысэрыя яе можа быць дваякая: можна яе ставіць у форме лёгка-камічнай казкі і тады ігра артыстаў мусіць быць сапраўды мастацкай, а можна яе ставіць і рэалістычна, усё бяручы больш-менш рэальна. Бязумоўна, першая пастаноўка будзе цяжэйшай, а другая лягчэйшай і паводле гэтай апошняй яе ўсюды ставілі і ставяць. Ставячы яе рэалістычна трэба аднак абавязкава зрабіць маленькае дапаўненьна ў прамове Лясуна і ў думках Янкі. Дасюлешні ўвесь сэнс гэтае п'есы зводзіцца да каўбасы з капустай, гарэлкі і да спаньня. А гэтага мала, – трэба абавязкава, каб яна давала нешта і для душы. Дзеля гэтага трэба толькі дадаць пару слоў для Ласуна, які, караючы Янку і Маланку за тое, што яны выпусьцілі птушку шчасьця, павінен напомніць ім думаць і аб жыцьці больш культурным, а ня толькі аб каўбасе, выпіўцы і спаньні. Гэтыя словы, паміж іншым, павінен быў-бы прачхнуўшыся прыпомніць сабе Янка і задумывацца над імі, а думкі могуць яму перарваць, або Ма-

ланка, або Жыд. Робячы папраўкі, ясна, трэба лічыцца з абставінамі і так іх зрабіць, каб да іх ня мог ніхто чапацца.

Папраўкі гэтыя паднялі-б вартасьць п'есы і яна адных навучала-б, а на другіх рабіла-б лепшае ўражаньне.

Пажадана, каб аўтор п'есы заняўся гэтай справай і каб вясковыя артысты пры пастаноўцы ,,Птушкі Шчасьця" зьвярнулі на гэта ўвагу. Я—к.

# Ёлачка для беларускіх дзетак.

З ініцыятывы Грам-кі Л. Войцікавай, ад імя Рэдакцыі час. „Пралескі", група матак беларускіх, дня 13.I.1935 г. у залі Бел. Інстытуту Гасп. і Культуры ладзіла для віленскіх беларускіх дзетак ёлачку.

Загадзя прыгожа прыбраную залю, сярод якое красавалася ёлка, у назначаны час, запоўнілі маленькія беларусы, якімі апекаваліся бацькі. Пасьля кароткіх гульняў адбыўся канцэрт беларускіх калядак, у мастацкім выкананьні хору грам. Шырмы. Маленькія слухачы доўга і паважна слухалі прыгожага сьпеву, білі брава, а пасьля паказалі, што яны і самі многа чаго ўмеюць. І вось пачаліся дэклямацыі беларускіх вершаў. Першы верш дэклямавала Галіна Пазьнячышка, пасьля Янка Пазьняк, Галіна Войцічанка, Люда Шырмянка і на заканчэньне задэклямаваў самы наймалодшы, бо ўсяго 2½-гадавы ўчасьнік ёлкі Расьціслаў Шырма, які ўжо калі сястра яго дэклямаваля, вырываўся ёй памагаць. Дэклямаваў-жа ён вельмі ўдала верш Я. Коласа „Каток", а закончыўшы і разглядзеўшыся, што ўсе б'юць брава і ён сам сабе біў так-жа брава, на вялікую пацеху ўсіх прысутных.

Увесь вечар прайшоў вельмі міла. Дзеткі, з якімі гулялі нават беларускія студэнты, былі вельмі здаволены, а радасьць іхная яшчэ павялічылася, калі дасталі скромныя падаркі. Разам з дзяцьмі цешыліся і бацькі, бачачы, што Беларусь расьце, што Беларусь жыве і будзе жыць!...

Добра было-б, каб падобныя імпрэзы ладзіліся для бел. дзетак на вёсцы і каб імі занялася старэйшая моладзь, бо бацьком нашым на вёсцы, змучаным часта цяжкім жыцьцём, не да ёлак. А моладзь старэйшая, сама гуляючы, павінна падумаць аб тым, каб забавіць і сваіх малодшых братоў і каб яны ўзгадоўваліся ў беларускім духу.

**Малады бацька.**

# Son viaźnia ŭ vihilijny viečar.

Horad byŭ uvieś zasypany śnieham. Strechi damoŭ, viežy cerkvaŭ i kaściołaŭ pakryŭ śnieh hruboju biełaju piarynaju, byccam chacieŭ zasypać žyŭcom usio, što ŭ im žyło.

Viečar skradaŭsia jak złodziej. Łaviŭ apošnija kasulki

sonca i kidaŭ u čornuju atchłań nočy. Śviatło i ciemra — uasableńnie dabra i zła — viali miž saboju zaŭziaty boj.

Z kraju miesta stajała viaźnica. U zakratavanym vaknie jaje vidać było maładuju, zadumauju žančynu. Abličča jaje vyražała biaźmierny smutak i žal. Vočy jaje byli škirovany na poŭdzień. Dumki biehli ŭ rodnuju chatu, dzie ŭsie pryhataŭlalisia da śviatoje viačery. Sumnaja budzie viačera, bo nia ŭsie źbiarucca kala stała.

— A z kim ža ja padzialusia siońnia śviatoju kaladoju?— Ślozy ńabiehli da vačej, niešta ściskała horła. Nia vytrymała. Adyjšła ad vakna i horka płačučy ŭpała na aryštanskaje łožka.

— Boža! Pieršaje śviata daloka ad rodnych i to ŭ turmie... Nie, ja nia vytrymaju!... I zašto mianie, Boža, karaješ? Ci za toje, što ja chacieła lepšaje doli dla svajho Narodu? — Ale, praŭda, ci ž heta Boh tak chacieŭ? —

Žal i płač što-raz bolš uzmahaŭsia, a paśla dumki jznoŭ palacieli ŭ rodnuju chatu. I bačyła jana, jak stareńkaja matka siadzieła za piečaj i płakała... Nia miłaj była joj viačera, biaz lubaj dačuški, jakuju zabrali...

— I zašto, zašto?...

— Ale nie adna ty, mamka, musiš ciarpieć i achviaru składać na aŭtar skryŭdžanaj Biełarusi! Takich matak mnoha... A nas nia treba škadavać, a ciešycca treba z takich dziaciej...

Abraz rodnaje vioski i chaty pavoli zaciraŭsia i žančynaviazień apynułasia ŭ niejkim ciomnym padziamielli. Nohi i ruki byli skavany i niechta vioŭ jaje za viaroŭku. Daroha ciahnułasia biezkaniečna i ŭściaž u ciemry. Raptam začało śvitać i vyšli na śviet. U vaddali pabačyła taŭpu ludziej, da jakoje vioŭ jaje pravadnik. Padyšoŭšy bližej pabačyła ahoń (kaścior) i dahadałasia kudy i našto jaje viaduć. Pravadnik pryviazaŭ ja da staŭpa i daŭ znać padpalvać. Stojačy na kastry pabačyła kruhom niaźličanuju kolkaść takich-ža kastroŭ i vałasy joj na hałavie ŭstali.

— Ci-ž tak mnoha maje ŭmierci hetaj strašnaj śmierciaj?

Ludzi sabranyja kruhom burylisia: zaciskali kułaki i kidali hrozny pahlad na pravadnika. — Ahoń ahortvaŭ jaje i tieła ŭžo adzieža. U taŭpie razdaŭsia kryk: „dačuška!“... Abiarnuła tudy hałavu i pabačyła, jak padała na ziamlu samlełaja matka.

— Boža! Zašto jaje karaješ, kažučy hladzieć joj na strašnuju śmierć maju?

Ahoń užo dabiraŭsia da cieła, achviara pamału traciła prytomnaść. Jašče jak-by praz imhłu bačyła biełuju postać matki, jakaja zbližałasia da jaje. Tady žančyna — viazień kryknuła: — Biełaruś, dla Ciabie! — i ŭpała razam z staŭpom.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Pračnułasia. Lažała na łožku, a praz vakno zahladali zorki.

—Dzie ja? Što sa mnoju dziejełasia. Paśla ŭsio sabie prypomniła i zrazumieła, što pierad chvilinaj pieražyła strašny son.

— Dla Ciabie, Biełaruś!... — I nia strašnyja ŭžo byli dla jaje śviaty ŭ viaźnicy...

*„mita“.*

# Лісты

## Беларуская вечарына.

в. Боўкалы, Шаркаўскае вол., Дзісенскага пав. Нядаўна моладзь суседняе вёскі Таболы ладзіла ў Боўкалах беларускае прадстаўленьне. Малядыя артысты ролі свае згулялі вельмі ўдала. Зацікаўленьне з боку глядзельнікаў было вялікае. Пасьля прадстаўленьня адбыліся агульныя скокі. Вечарына трывала ўсю ноч і паміма „Калядняга“ настрою, на забаве аж да канца трываў супакой.

Трэба сказаць, што гэта ўжо ня першае выступленьне маладых вясковых артыстаў-аматараў на беларускай сцэне— яны за паўгода наладзілі ўжо тры беларускія прадстаўленьні і цяпер працуюць над сарганізаваньнем хору, сьпяваючы нават ужо некаторыя беларускія народныя песьні.

Маладым Табалянам чэсьць і слава! *Той-самы.*

## Мала кніжак!

Ярэмічы, Стаўпецкага пав. У нашай старонцы калісьці карысталіся вялікай папулярнасьцю рознага роду імпэрыялісты з „усходнімі“ ўплывамі. Цяпер, у зьвязку з арыштамі ў БССР, уплывы гэтых імпэрыялістаў што-раз слабнуць. Моладзь наша вельмі ахвотна горнецца да ўсяго свайго беларускага і стараецца як найбольш чытаць беларускіх кніжак, якіх у нас як раз вельмі мала.

Апошнім часам каля нашае моладзі завіхаюцца асабліва бэ-бэ-каўскія арганізацыі моладзі, хочучы ўцягнуць усіх нас у свае польскія „колы“, мы аднак думаем залажыць гурток Беларускага Інстытуту Гасп. і Культуры, а пакульшто робім стараньні і просім беларускі цэнтр у Вільні дапамагчы нам як-небудзь дастаць беларускіх кніжак. *С. Я—кі.*

## Просім новых беларускіх п‘есаў.

Чапялева ля Слоніма. У нас моладзь — дзяўчаты і хлопцы—бадай-што ўсе аматары-артысты,а беларускія прадстаўленьні так часта ладзяцца, што мы ня маем ужо бел. п’ес прыгодных для вясковае сцэны,якіх-бы мы яшчэ ня ставілі.

Прадстаўленьні гэтыя мы ладзім ад імя польскіх арганізацыяў, бо свае бел. арганізацыі не пазваляюць нам залажыць тыя цяжкія абставіны жыцьця, у якіх мы знаходзімся.

Беларускіх пісьменьнікаў просім пісаць новыя творы, якія-б здатнымі былі для бел. сялянскай аматарскай сцэны і здаровым зьместам сваім разьвесялялі, асьвячалі і пабуджалі баларускі народ да лепшага, сьвятлейшага, самастойна-незалежнага жыцьця. *Артыст-аматар.*

# Хроніка.

## З беларускага жыцьця.

**Канфіската і суд.** 25 г. м. Віленскае Гарадзкое Староства сканфіскавала „Беларускую Крыніцу“ № 4 за 1935 г.— 30 г. м. ў Віленскім Гарадзкім Судзе будзе разглядацца справа грам. Ул. Казлоўскага — рэдактара „Новага Шляху“ за зьмяшчэньне ў № 6(8) рэдагаванага ім часапісу артыкулу аб абавязках сяброў БНС і інш, якія ўлады сканфіскавалі.

**Новыя Гурткі Б.І.Г. і К.** Нядаўна у в. Вярашычы, Пачапаўскай вол. і ў в. Мондзін, Райчанскай вол. — Наваградзкага пав. — заснаваліся два новыя гурткі Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры. Абодва гурткі легалізуюцца у Наваградзкім старастве. Цікава, які спаткае іх лёс.

**Пасьвячэньне новага сьвяшчэньніка беларуса ў Рыме.** Дня 23 сьнежня 1934 атрымаў рукапалажэньне ў Рыме, законьнік — Мар'янін Др. Тамаш Падзява.

**Нарада ў справе чысьціні беларускай мовы.** 16 г. м. у Вільні адбылася першая прыватная нарада заінтэрэсаваных беларусаў у справе супольнае працы над чысьцінёй беларускай мовы. Як дагэтуль усё на добрай дарозе.

**З выдавецкае нівы.** На пачатку сёлетняга году Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры выдаў зборнік вершаў Янкі Купалы «*Шляхам Жыцьця*». Кніжка абымае 272 бачыны, на якіх зьмешчаны лепшыя творы нашага слаўнага песьняра. Цана кніжкі 2 зл.

**З Студэнцкага жыцьця.** — 25.XI.34 г. у Празе (Чэхаславаччына) адбылося рэфэрэндум (завочнае галасаваньне) Аб'яднаньня Беларускіх Студэнскіх Арганізацыяў (АБСА), падчас якога выбраны новыя ўлады АБСА.

— 19.I.35 г. у Б.С.С. студ. В. Скалубоўскі прачытаў рэфэрат аб „Нацыяналізьме,“ а 26.I.35 там-жа чытаў лекцыю абс. мэд. Я. Малецкі „Аб наватворах.“ Пасьля рэфарату Я. Малецкага адбыліся скокі.

— На Віленскім Унівэрсытэце арганізуецца новае беларускае студэнцкае таварыства ім. Фр. Скарыны. Будзе яно здаецца наступніцай благое памяці корпарацыі „Скарыніі“.

**Папраўка.** У № 13 (73) „Шляху Моладзі“ за 1934 г. у хроніцы ў зацемцы з студэнцкага жыцьця здарылася прыкрая абмылка, а іменна: падана, што студ. Тышкевіч быў выкінуты з Ураду БСС, а аказваецца, што ён сам выступіў з гэтага Ураду.

**З Б.С.С.Р. Сьмерць акадэміка М. Ф. Блёдуха.** 13 студзеня сёлета ў Менску памёр беларускі вучоны, акадэмік М. Ф. Блёдуха. Напісаў ён шмат навуковых працаў з галіны натуральных выкапаў на Беларусі і быў адным з выдатных стаўпоў беларускае навукі.

# Usiačyna.

**Čałaviek moža žyć 180 hadoŭ.** Viedamy rasiejski bioloh P. P. Łazarev ćvierdzić, što faktyčnaj hranicaj žyćcia ludzkoha jość viek kala 180 hadoŭ. Praktyčna adnak viedajem, što inačaj „krychu“ dziejecca.

**Žančyna pieralacieła akijan.** Amerykanskaja latunka Amila Earhardt 12 h. m. pieralacieła na samalocie z vostravu Honolulu ŭ Kaliforniju (Ameryka) nad Spakojnym akijanam. Šlach hety ŭvažajecca za adzin z najniebieśpiačniejšych, bo na im užo zhinuła niekalki latunoŭ. A Earhardt źjaŭlajecca pieršaj žančynaj, jakaja pieralacieła akijan.

**Možna varyć na ciapłyni sonca.** Dyrektar astranamičnaje abservatoryi ŭ Vašyngtonie (Ameryka) dr. Abatti vydumaŭ taki aparat, pry pomačy jakoha možna pryciahnuć stolki ciapłyni sonca, što na joj možna što chočaš varyć i navat možna jaje vykarystać dla puščeńnia ŭ chod nievialikich paravych mašyn.

**Padarož na miesiac.** Amerykanskija vučonyja dumajuć lacieć na specyjalnaj rakiecie daŭžynioju 9 metraŭ na miesiac. Padarož heta tryvała-b kala 8 hadzin, bo rakieta mahčymie pralacieć 2000 metraŭ na minutu.

**Moža i dobra.** Kitajski ŭrad zabaraniŭ niepaŭnaletnim svaim hramadzianam kuryć papiarosy, a žančynam — nasić karotkija rukavy.

— Japonskaja palicyja zabaraniła moładzi ŭ školnym uzroście chadzić u restarany, piviarni i im padobnyja damy.

**Plebiscyt u Saary.** 13 h. m. u niamieckaj pravincyi Saara, jakaja Versalskim traktatam 1919 h była addzielena na 15 hadoŭ ad Niamieččyny i pryłučana da Francyi, adbyŭsia plebiscyt, u vyniku jakoha: za pryłučeńnie Saary da Niamieččyny hałasavała — 477.109 asob = 90,8 proc. Za ŭtrymańnie dasiulešniaha pałažeńnia - 46.513 = 8,87 proc. Za pryłučeńnie Saary da Francyi — 2.124 = 0,4 proc. Usich hałasavała — 97.9 proc. Pieradańnie niemcam ułady ŭ Saary adbudziecca ad 1 da 3 sakavika sioleta

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

Шчырыку. Матар'ялы атрымалі, дзякуем! Просьбу споўнілі, карэспандэнцыю зьмесьцім у наступным нумары, бо ў гэтым ўжо было за позна.

А. Росьціку. Усё атрымалі — дзякуем. Просьбу споўнілі, вершы слабаватыя. Можа аднак калі-небудзь паправіўшы надрукуем, хоць адзін.

Arejasu Vitkauskasu ў Амэрыцы. На жаль, ня можам скарыстаць з Вашае новэлькі, бо не пазваляюць на гэта нам вузкія рамкі нашага часапісу.

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЕ КАЛЕГІІ:*
*Ізабэля і Альфонс Шутовічы і Язэп Малецкі.*

**Рэдактар Язэп Найдзюк** **Выдавец Янка Багдановіч**

Я. В. Просьбу споўнілі. Чапялеўскім артыстам парадзьце, няхай яны паставяць п'есу п. н. „Ameryka ŭ łaźni."

P. R. Karespandencyi Vašy nia majuć nijakaha hramadzkaha značeńnia i dziela hetaha nia možam ich drukavać. Vieršy słabyja. Bolš pracujcie nad saboj.

А. Мілюцю. Вершы атрымалі і там дзе трэба было — перадалі, а з прызначаных для нас ужо пачалі пакрысе карыстаць.

Обсэрватару. Вашае карэспандэнцыі, паміма таго, што Вам спачуваем, нажаль, ня можам надрукаваць, бо зробленыя ў ёй закіды некаторым вучыцялём Бел. Гімназіі ў Вільні на столькі паважныя, што калі яны будуць апублікаваны, дык напэўна справа не астанецца бяз рэха з боку Куратарыюму і можа дайсьці да суду, а Вы, пішучы сваю карэспандэнцыю, не падаеце ані сьведкаў, ані так-жа самі ня можаце стаць сьведкай, дзеля пацьверджаньня напісанага.

Усім, хто праслаў адказ на анкету ў справе зьместу „Шляху Моладзі", шчырая падзяка. А хто яшчэ хацеў-бы ў гэтай справе забраць голас, дык, калі ласка, толькі магчыма найхутчэй.

## КУТОК РАЗРЫВАК.

На жаданьне некаторых падпішчыкаў і супрацоўнікаў, ад гэтага нумару ўзнаўляем куток разрывак За разьвязаньне кожнае круцігалоўкі, ці адгаданьне загадкі будзе вызначана заўсёды 1 нагарода ў постаці цэннае беларускае кніжкі, як „Гісторыя Беларусі" — Ул. Ігнатоўскага, „Новая Зямля," „Сымон Музыка" — Я. Коласа, „На сонечны бераг" — М. Машары. „Biełaruskija Cymbały — W. A., „Z rodnaha zahonu" — A. Ziaziuli і інш..

Нагароды будуць разьдзяляцца лёсаваньнем (жэрабем) паміж усімі асобамі, якія будуць прысылаць правідловыя — разьвязкі і адгадкі не пазьней як у працягу 2—3 тыдняў пасьля выхаду „Шл. Мол." з друку, г. зн. каля кожнага 20—25 дня наступнага месяца.

Апроч таго ў канцы году будзе наладжаны конкурс — хто найбольш і найакуратней разьвязаў круцігаловак і адгадаў загадак, той атрымае асобную нагароду, так-жа з кніжак. Разьвязкі і адгадкі просім прысылаць на паштовых картках, бо гэта найтаней будзе каштаваць.

Зазначаем пры гэтым, што куток разрывак будзе ў кожным нумары, бо, як паказала жыцьцё, вельмі многа хто гэтым „кутком" цікавіцца.

РЭДАКЦЫЯ.

### Круцігалоўка № 7 — *улажыў. У. Казаровіч.*

1) =XXXXX
2) X=XXXX
3) XX=XXX
4) XXX=XX
5) XXXX=X
6) XXXXX=

Значэньне слоў:

1) Здрабнелае мужчынскае імя.
2) Часьць нітак да красён.
3) Места ў Польшчы.
4) Іначай — жаба крычыць.
5) Іначай — збыў.
6) Іначай — паэт.

Літары на месцы знакоў раўнаньня зьгары ўніз дадуць псэўдонім аднаго беларускага паэта.

### Zahadka Nr. 4.

Pačatak śvietu ja i słova
I času viečnaha kaniec;
Sa mnoju vioski ŭsie i sioła;
I biez mianie pałac, dvarec.
Ja kožnu śmierć raspačynaju
I nie patrebna da žyćcia,
U Rasiei centrum ja zajmaju:
Zhadaj ža, čym mahu być ja.

J. V.

### Kutok śmiechu.

Dokaz „kultury."

Vučyciel: Kolki budzie try razy pa siem?

Vučań: Ačko.

Vučyciel: A čatyry razy pasiem.

Vučań. Pierabor. P. R.

* * *

Vučyciel da vučnia: Čamu ty spaźniŭsia?

Vučań. Bo pryjšoŭ 5 minut pa vośmaj

J. V.

Pierasyłka apłačana ryčałtam.



# ПРЭМІЯ ДЛЯ ПАДПІШЧЫКАЎ „ШЛЯХУ МОЛАДЗІ".

**Хто прышле да 15.III.1935 году падпіску на „Шлях Моладзі" на цэлы 1935 год у суме 2 зл. і 50 гр., той атрымае як прэмію:**

## „Гісторыю Беларусі"

**ПРАФ. УЛ. ІГНАТОЎСКАГА.**

**Хто да 30.III.1935 г. ня прышле падпіскі на „Шлях Моладзі", або не паведаміць, калі гэта зробіць, таму высылка часопісі будзе абавязкава спынена.**

Грошы просім слаць „przekazem rozrachunkowym", які далучаем да гэтага нумару „Шляху Моладзі."